Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 23 сакавіка 1999 г. № 31 (562) Кошт свабодны

## NATO не пусцілі ў залу

У Мінску — чарговы дыпламатычны скандал. З-за бязглуздасці беларускіх уладаў ледзь не сарвалася міжнародная канферэнцыя «Польшча — у NATO», якую наладзіла польская амбасада. Канферэнцыя павінна была адбыцца ў Рэспубліканскім культурна-асветніцкім цэнтры (РКАЦ) на Кастрычніцкай вуліцы. Аднак за 20 хвілінаў да яе пачатку супрацоўнікі Цэнтра заявілі, што ў іх «няма месца».

Палякі ў «пажарным парадку» знайшлі месца ў польскай амбасадзе. Туды на аўтобусе адправілі гасцей і ўдзельнікаў канферэнцыі, сярод якіх былі дыпламаты з Турцыі, Украіны, Літвы ды Балгарыі.

Цікава, што арганізатарам канферэнцыі нават не патлумачылі, чаму адмаўляюць у памяшканні. Прадстаўнік польскай амбасады Пётр Лэбэк кажа, што супрацоўніца Цэнтра спн.Елісеева ўсё ж спаслалася на забарону з боку міністэрства замежных справаў Беларусі. Карэспандэнту НАВІНАЎ Надзея Елісеева заявіла, што нічога не вырашае, а хто прыняў рашэнне аб адмове ў памяшканні — не ведае. Дырэктар РКАЦ Аляксандр Гундар з раніцы з'ехаў у адміністрацыю прэзідэнта, і таму сувязі з ім не было, а ягоны намеснік Міхаіл Гец сказаў, што «канферэнцыя — не ў яго кампетэнцыі». Між тым журналісты лічаць, што гэтая адмова ляжыць на сумленні вышэйшых уладаў.

Як адрэагуе польскі бок на гэты інцыдэнт, пакуль невядома. Прадстаўнікі польскай амбасады кажуць, што «пытанне вывучаецца». А вось удзельнік канферэнцыі, былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечыслаў Грыб назваў паводзіны беларускіх кіраўнікоў чарговым «нервовым канцэртам».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Хто даў «асобнае даручэнне»?

**У чацвер супрацоўнікі крымінальнага вышуку Цэнтральнага РАУС Магілёва правялі вобыск у штаб-кватэры абласной арганізацыі Беларускага Народнага Фронту. У часператрусу, які доўжыўся каля дзвюх гадзінаў, будынак быў ачэплены амонаўцамі.**

Міліцыянты канфіскавалі матэрыялы, якія маюць дачыненне да прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам на 16 траўня. Акрамя перадвыбарчых плакатаў і чыстых падпісных бланкаў, міліцыянты забралі службовыя дакументы БНФ. Кіравала гэтай аперацыяй намесніца начальніка следчага аддзела Наталля Караткевіч. У тэлефоннай размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ яна паведаміла, што выконвала «асобнае даручэнне», але не ўдакладніла чыё. Прысутныя ў штаб-кватэры склалі акт аб незаконных дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі. Учора для допыту ў Цэнтральны РАУС выклікалі старшыню магілёўскай філіі БНФ А.Фёдарава.

Па інфармацыі праваабарончага цэнтра «Вясна-96», вобыск быў праведзены таксама на кватэры, дзе месціцца Пухавіцкая раённая камісія па выбарах прэзідэнта. Супрацоўнікі міліцыі на чале з капітанам Нечуйвіцерам канфіскавалі друкаваную прадукцыю і два бел-чырвона-белыя сцягі, якія з'яўляюцца прыватнай уласнасцю аднаго з актывістаў.

**А.Д.**

## Міністр абяцае вярнуць давер да міліцыі

**На мінулым тыдні міністр унутраных справаў Юрый Сівакоў пабываў у Пінску і Баранавічах. Як сцвярджае прэс-служба МУС, паездка мела азнаямленчы характар.**

У Баранавічах генерал-лейтэнант выступіў у доме культуры перад прадстаўнікамі кіруючага актыву раёна. Ю.Сівакоў паведаміў, што ў хуткім часе ў міністэрстве ўнутраных справаў будзе створаная так званая служба даверу (група па сувязях з грамадскасцю і апрацоўцы інфармацыі). Кожны грамадзянін краіны зможа звярнуцца ў гэтую службу з лістом альбо патэлефанаваць па двух тэлефонах на працягу працоўнага дня і распавесці пра дзейнасць міліцыі. Усе негатыўныя і станоўчыя факты будуць фіксавацца і апрацоўвацца. Такім чынам, з'явіцца магчымасць «вылічыць» несумленных міліцыянтаў.

Новы шэф МУС збіраецца скараціць дыстанцыю паміж работнікамі міліцыі і народам. Па ягоных словах, міліцыя таксама імкнецца да хрысціянскіх каштоўнасцяў. На Вялікдзень плануецца адкрыццё ў Ваколіцы непадалёк ад Мінска палкавога храма (магчыма, першага на тэрыторыі СНД). Мяркуецца, што на гэтую імпрэзу прыедзе нават міністр унутраных справаў Расіі.

У Пінску міністр Сівакоў пабываў на прадпрыемстве «Палессе», якое выконвае заказы міністэрства па пашыве абмундзіравання, а таксама наведаў корпус па абароне грамадскага парадку. Старшыня Пінскага гарвыканкама сказаў, што адной роты ў горадзе мала, і папрасіў павялічыць гэтае падраздзяленне.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



## Еўрапарламент патрабуе правесці прэзідэнцкія выбары

**Па ініцыятыве спецыяльнага дакладчыка па Беларусі Элізабет Шродтэр, Еўрапейскі парламент прыняў рэзалюцыю пра сітуацыю ў нашай краіне.**

У дакуменце Еўрапарламент адзначае, што створаныя ў 1994 годзе дэмакратычныя структуры былі ліквідаваныя прэзідэнтам Лукашэнкам пасля спрэчнага рэферэндуму, легітымнасць якога не прызнана большасцю заходніх краінаў. Прэзідэнт Лукашэнка змяніў канстытуцыю, распусціў легітымны парламент і працягнуў тэрмін сваіх паўнамоцтваў, якія, згодна з канстытуцыяй, заканчваюцца 20 ліпеня 1999 года.

Еўрапарламент нагадвае, што апазіцыя, заходнія краіны і міжнародныя арганізацыі не прызнаюць новую рэдакцыю канстытуцыі. Лідэры беларускай апазіцыі прызначылі дату прэзідэнцкіх выбараў на 16 траўня. У адказ беларуская ўлады затрымалі і асудзілі 17 членаў Цэнтрвыбаркама, а таксама вынеслі папярэджанні газетам за публікацыю матэрыялаў аб выбарах. Далей Еўрапарламент выказвае шкадаванне нaконт *«пастаяннага пагаршэння сітуацыі з правамі чалавека падчас праўлення прэзідэнта Лукашэнкі, што ставіць Беларусь у адзін рад з іншымі грубымі парушальнікамі правоў чалавека»*. У рэзалюцыі звяртаецца таксама ўвага на абмежаванні свабоды слова ў нашай краіне, дзе апазіцыйныя палітыкі пазбаўленыя доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, што *«перашкаджае адкрытым дыскусіям і робіць немагчымым правядзенне свабодных і сумленных выбараў»*.

Улічваючы ўсе пералічаныя акалічнасці, Еўрапарламент патрабуе ад прэзідэнта Лукашэнкі *«аднавіць дэмакратыю, забяспечыць захаванне правоў чалавека, правесці свабодныя і справядлівыя прэзідэнцкія выбары да заканчэння тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў»*. Пры гэтым на выбарах павінны захоўвацца стандарты АБСЕ. Парламентарыі еўрапейскіх краінаў заклікаюць *«спыніць крымінальны пераслед апазіцыйных сілаў, якія займаюцца падрыхтоўкай законнай кампаніі па выбарах прэзідэнта, і неадкладна забяспечыць апазіцыі доступ да дзяржаўных СМІ»*.

Еўрапейскія палітыкі лічаць, што байкот з боку дэмакратычнай апазіцыі *«робіць незаконнымі мясцовыя выбары»*. Яны падтрымліваюць спробы АБСЕ наладзіць дыялог паміж прэзідэнтам і апазіцыяй, *«каб пазбегнуць больш сур'ёзных канфліктаў»*. Сваю рэзалюцыю Еўрапарламент завяршае заклікам да беларускіх уладаў *«гарантаваць грамадзянам права на публічнае мірнае выказванне пратэсту без самавольнага арышту ўдзельнікаў і арганізатараў дэманстрацыяў»*.

**А.Д.**

## Зноў не хапае яек



*У Мінску вялікім дэфіцытам зноў сталі яйкі. Як вядома, гэты прадукт з'яўляецца яскравым паказальнікам цяжкага становішча ў эканоміцы. Няўжо на беларускія яйкі зноў паўплываў нейкі расійскі крызіс? Учора ў крамах чэргі за яйкамі заканчваліся на вуліцы. Іх прадавалі толькі па два дзесяткі на рукі па 92 - 109 тысяч рублёў. У прэс-службе міністэрства гандлю нам паведамілі, што шукаць яйкі патрэбна ў аб'яднанні «Белптушкапрам», якое недапастаўляе гэты прадукт у гандаль, а міністэрства, маўляў, «яйкі не хавае». У «Белптушкапраме» не сталі каментаваць сітуацыю, а параілі пайсці на Камароўскі рынак. Як сцвярджаюць спецыялісты «Белптушкапрама», грамадзяне спачатку раскупляюць яйкі ў крамах, а потым прадаюць іх на базарах у два разы даражэй. Попыт на яйкі тым не менш будзе павялічвацца, бо прыбліжаецца Вялікдзень.*

## Лукашэнку запрасілі ў Цэнтрвыбаркам

**Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Беларусі прызначыла на 31 сакавіка ўрачыстую цырымонію рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты.**

Яе плануецца правесці ў Мінску ў гатэльным комплексе «Кастрычніцкі». Як мы паведамлялі, цяпер завяршаецца збор подпісаў за двух кандыдатаў у прэзідэнты — Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра. На ўрачыстую цырымонію Цэнтрвыбаркам запрасіў прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу ў нашай краіне, кіраўнікоў місіяў ААН і АБСЕ, а таксама дзеючага прэзідэнта, тэрмін паўнамоцтваў якога завершыцца 20 ліпеня гэтага года.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## На Смаленскай АЭС спынілі энергаблок

**На мінулым тыдні пры правядзенні прафілактычных работаў на Смаленскай атамнай электрастанцыі здарыліся чарговыя непаладкі.**

Па невядомых прычынах спрацавала сістэма абароны, у выніку чаго быў поўнасцю спынены першы энергаблок. У рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны нам паведамілі, што выкідаў радыеактыўных рэчываў у атмасферу не зафіксавана. Смаленская АЭС працягвае працу.

## Улады дазволілі мітынгаваць

**Мінскі гарвыканкам дазволіў правесці 28 сакавіка шэсце і мітынг, прысвечаныя 81-й гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Удзельнікі акцыі збяруцца а 12-й гадзіне на плошчы Якуба Коласа і пройдуць па праезнай частцы праспекта Скарыны і вуліцы Янкі Купалы да плошчы Парыжскай камуны, дзе адбудзецца мітынг. Заяўку на правядзенне акцыі падавалі прадстаўнікі БНФ.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Дэмакраты аб'ядналіся

У мінулы чацвер у Маскве была створана каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў Расіі і Беларусі. Такое рашэнне прынялі ўдзельнікі грамадскіх слуханняў, прысвечаных праблеме інтэграцыі дзвюх краінаў.

На паседжанні ў маскоўскім «Прэзідэнт-гатэлі» прысутнічалі вядомыя палітыкі: Міхаіл Чыгір, Сямён Шарэцкі, Станіслаў Шушкевіч, Юры Хадыка, Андрэй Саннікаў, Ягор Гайдар, Андрэй Козыраў, Барыс Нямцоў, Аляксандр Якаўлеў, Барыс Фёдараў, Канстанцін Баравой і іншыя. Сваё адабрэнне гэтай ідэі выказаў таксама кіраўнік РАО ЕЭС Анатоль Чубайс.

Як адзначаецца ў канчатковым мемарандуме, прынятым удзельнікамі слуханняў, *«мэтай створанай рады з'яўляецца супольнае супрацьдзеянне антыдэмакратычным тэндэнцыям у Беларусі і Расіі»*.

Па словах экс-спікера ВС Станіслава Шушкевіча, беларуская дэмакраты і іхнія расійскія калегі *«вызначылі пакуль што толькі агульную стратэгію дзейнасці рады»*, а канкрэтныя напрамкі работы распрацуе спецыяльна створаны камітэт. С.Шушкевіч задаволены вынікамі слуханняў, паколькі *«ідэя аб'яднання дэмакратычных сілаў Расіі і Беларусі наспела ўжо даўно»*.

Беларускі Народны Фронт на маскоўскай сустрэчы прадстаўляў Юры Хадыка. Стаўленне БНФ і яго лідэраў да рознага роду аб'яднанняў з расійскімі няхай сабе і дэмакратамі заўжды было даволі стрыманым. Аднак, па словах сп.Хадыкі, прагрэс у стасунках паміж расійскімі і беларускімі дэмакратамі відавочны. Калі раней расійскія правыя, баючыся згубіць падтрымку электарата, не асмельваліся публічна назваць беларускі рэферэндум-96 дзяржаўным пераваротам і адкрыта не выступалі супраць лукашэнкаўскай інтэграцыі, то падчас сустрэчы ў «Прэзідэнт-гатэлі» расіяне пагадзіліся з фармулёўкамі сваіх беларускіх калегаў адносна асобы прэзідэнта Лукашэнкі і створанага ім рэжыму.

Беларускія ўдзельнікі слуханняў тлумачаць змену адносінаў расійскай дэмакратыі да Лукашэнкі рэальнай пагрозай чырвона-карычневага рэваншу ў самой Расіі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

У вёсцы Хлупін Жыткавіцкага раёна затоплены ўсе 160 дамоў.

# Ахвяры стыхіі

**На ўчарашні дзень паводка затапіла 204 населеныя пункты ў 23 раёнах краіны, эвакуіравана больш за 2 тысячы чалавек.**

Людзі пераважна рассяляюцца ў сваякоў, а таксама ў школах, інтэрнатах і г.д. У адным з раёнаў Брэстчыны ў водах разлітай ракі патанула 68-гадовы мясцовы жыхар, які неабачліва выбраўся на нарыхтоўку дроваў.

Значную шкоду нанесла паводка на Брэстчыне і Гомельшчыне. Асабліва складаная сітуацыя ў Жыткавіцкім раёне. Прыпяць заліла там вялікія тэрыторыі, з якіх адселена 586 чалавек. Вёска Азяраны цалкам адрэзаная ад знешняга свету. Вада паднялася вышэй падмуркаў і пачала залiваць дамы. Аднак, па словах азяранскіх жыхароў, ніякай дапамогі ад уладаў яны так і не атрымалі і ратуюцца ад стыхіі ўласнымі сіламі. На самаробных чоўнах і плытах людзі вывозяць у сухія месцы з затопленых падворкаў найбольш каштоўныя рэчы і жывёлу. У многіх ахопленых паводкай раёнах вада змыла з калгасных двароў запасы ўгнаенняў, і цяпер гэтыя атрутныя рэчывы ўяўляюць значную экалагічную небяспеку. Стыхіяй пашкоджана шмат ліній электраперадачаў і больш за 28 кіламетраў дарог, на якіх цалкам спынены рух аўтатранспарту.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Рэпарцёра звольнілі пасля дня Валянціна

Ці могуць у нас звольніць з працы за палітыку? Знайсці адказ на гэтае пытанне можа дапамагчы гісторыя былой журналісткі «Чырвонай змены» Арыі Гатальскай. Пачалася гэтая гісторыя з падзеяў, якія адбыліся ў Мінску месяц таму.

Нагадаем, што 14 лютага, у дзень св.Валянціна, у Мінску прайшло маладзёжнае шэсце «Беларусь у Еўропу!» Арыя, як яна сцвярджае, удзельнічала ў гэтым шэсці ў якасці журналісткі і ў выніку апынулася разам з іншымі затрыманымі ў міліцэйскім пастарунку, дзе правяла некалькі гадзінаў. Аднак гэтага хапіла, каб застацца без працы, сцвярджае Арыя. З 16 сакавіка ў «Чырвонцы» яна ўжо не працуе. Звольненая журналістка адказала на пытанні карэспандэнта НАВІНАЎ.

*— Што дае вам падставы звязаць звальненне з «палітыкай»?*

— Мяне звольнілі 16 сакавіка, а месяц таму я была затрыманая міліцыяй пасля акцыі «Беларусь у Еўропу». У тым шэсці моладзі я ўдзельнічала выключна як журналіст. Упэўненая, што звесткі аб затрыманні дайшлі да кіраўніцтва газеты і ад мяне вырашылі пазбавіцца.

*— Ці напісалі вы ў сваю газету пра тое, што бачылі ў дзень св.Валянціна?*

— Не, «Чырвонка» не асвятляе апазіцыйныя акцыі.

*— У газеце існуе цэнзура?*

— Непасрэдна такога органа няма. Але ўсе ведаюць, што ёсць тэмы, на якія пісаць няма сэнсу — усё роўна не надрукуюць.

*— І якія гэта тэмы?*

— Напрыклад, падрыхтоўка да прэзідэнцкіх выбараў. Увогуле, усе дзеянні апазіцыі. Нельга нават пісаць пра палітычныя акцыі музычных гуртоў. Яшчэ два гады таму такога абмежавання не было. Цяперашняе кіраўніцтва газеты перастрахоўваецца як ніхто.

*— Хіба не можа быць, што галоўная прычына канфлікту — службовыя прэтэнзіі да вас.*

— За апошнія гады ў «Чырвонай змене» гэта не першы падобны выпадак. Развітваюцца чамусьці выключна з тымі, хто прытрымліваецца «крамольных» палітычных поглядаў.

НАВІНЫ папрасілі пракаментаваць сітуацыю калегаў з «Чырвонай змены». ІгарВаласевіч, загадчык аддзела, дзе працавала Арыя, літаральна бажыўся, што ўпершыню чуе пра затрыманне журналісткі Гатальскай. *«Мы развіталіся з Арыяй па той прычыне, што яна парушала працоўную дысцыпліну. Палітыка тут ні пры чым»,* — сцвярджае І.Валасевіч.

Між тым, нам падаецца, што высновa Арыі Гатальскай адносна яе звальнення не пазбаўленая падставаў. Па нашых звестках, цэнтральным дзяржаўным газетам і электронным СМІ зараз пастаўленая задача скараціць свае штаты на 15—20 працэнтаў. Бюджэт больш не дазваляе ўтрымліваць такую колькасць дзяржаўных журналістаў. Таму не выключана, што скарачэнні ўжо пачаліся. І пачаліся з тых, хто сваімі палітычнымі поглядамі дадае праблемаў?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Безвизовый режим в СНГ может быть отменен

Накануне очередной даты возможного проведения саммита глав государств СНГ становится все более очевидным, что данный форум может стать последним подобного рода мероприятием в почти восьмилетней истории Содружества. В пользу такого печального вывода свидетельствует большинство произошедших за последний год в рамках сообщества событий. Кстати, уже сам факт, что руководители стран СНГ не встречались в полном составе без малого год, подталкивает к резонной мысли о том, что такого рода встречи уже не являются жизненно необходимыми. В геополитических устремлениях каждого из государств Содружества, определивших на данном этапе свое место на карте мира и обозначивших свои приоритеты (исключение составляет, пожалуй, лишь Таджикистан, чье будущее в силу объективных причин, увы, пока не просматривается), сегодня непосредственно СНГ как субъект международной жизни все больше уходит на задний план. Различные конфигурации, сложившиеся с учетом конкретных интересов и предпочтений каждой из столиц СНГ в образе «двоек», «четверок» и т.д., не просто размыли само понятие и в какой-то степени суть Содружества, но стали реальным инструментарием решения тех задач, которые, собственно, и возлагались на СНГ.

Пожалуй, можно согласиться и с другим объяснением «тихой смерти» Содружества, связанным с отсутствием в СНГ настоящего лидера.

В этом свете смешны потуги некоторых обозревателей, увидевших вдруг угрозу распада СНГ не в бездействии Москвы, а в попытках, скажем, Ташкента или Тбилиси выйти из Договора о коллективной безопасности или в стремлении Баку разместить у себя западную военную базу. Реальная интеграция любой из стран СНГ в мировую систему международных связей заставляет каждую из них искать свою нишу. Раньше других с этим определилась, как ни странно, Туркмения: пока некоторые соседи посмеивались над ее декларациями о нейтралитете и неприсоединении (тоже, мол, нашлась в Каракумах Швейцария), а Россия снисходительно не мешала, Туркменбаши со своей командой дипломатов добился того, что впервые в практике ООН мировое сообщество официально признало за молодой страной статус нейтрального государства со всеми вытекающими отсюда последствиями и привилегиями.

Остальные члены Содружества тоже постепенно определились со своими приоритетами. Украина, Молдавия, Азербайджан и отчасти Грузия сделали ставку на Запад, надеясь со временем стать полноправными участниками европейского сообщества: что до остальных, то их ориентация на западные и восточные державы пока сковывается зависимостью от России — у кого-то экономической, у кого-то политической.

Если справедливы оценки роли СНГ в новейшей истории как механизма бракоразводного процесса бывших советских республик, то следует признать, что эта роль уже практически сыграна. Раздел имущества и жилой площади почти закончен, идет процесс разъезда. Отчаянная попытка Бориса Березовского придать образованию экономический характер и через создание отвечающих времени управленческих структур и зон свободной торговли по сути реанимировать Содружество в новом качестве сорвана внутрироссийскими интригами. Еще одним испытанием для СНГ может стать прекращение действия Бишкекского (от 9 октября 1992 г.) соглашения о безвизовом передвижении граждан СНГ по территориям его участников.

Как стало известно из достоверного источника в ближайшем окружении министра иностранных дел РФ, туркменский коллега проинформировал Игоря Иванова о планах выхода Ашхабада из вышеуказанного соглашения. Удалось также выяснить, что мотивация Туркмении выглядит следующим образом. Ашхабад исходит из того, что подписание данного документа в 1992 г. было обусловлено стремлением в связи с распадом бывшей единой страны создать благоприятные условия для миграции граждан, находившихся на тот период в процессе выбора своего постоянного места жительства. После того, как вопросы, связанные с массовым передвижением граждан СНГ, стали не так актуальны, предоставляемыми соглашением возможностями стали пользоваться не только добропорядочные жители стран Содружества, но и лица, поведение которых является предметом интереса правоохранительных органов. *«Мы не собираемся выходить из СНГ,* — якобы предостерег И.Иванова от поспешных выводов туркменский министр. — *Мы всего лишь не хотим оставаться в едином криминальном пространстве».*

Вполне вероятно, что уже на предстоящем саммите глав государств СНГ Сапармурат Ниязов разъяснит коллегам-президентам детали и аргументы предстоящего выхода Туркмении из безвизового режима. А уже на следующий подобный форум, если он вообще будет, Туркменбаши, возможно, придется выезжать, предварительно получив въездную визу. Впрочем, какими бы ни были причины, подвигнувшие Туркмению на подобный шаг, он станет еще одним поводом серьезно задуматься над судьбой образования, которое по инерции пока еще именуется Содружеством.

*«Независимая газета»*

Актау
КАЗАХСТАН
Каспийское море
УЗБЕКИСТАН
Ургенч
Ташкент
ТУРКМЕНИЯ
пустыня Каракумы
ТАДЖИКИСТАН
Ашхабад
ИРАН
АФГАНИСТАН
Кабул

# Міліцыя змагаецца з «Избирателем»

У мінулую пятніцу ў Ленінскі райаддзел міліцыі Гродна быў выкліканы В.Леванеўскі — выдавец бюлетэня «Избиратель». Бюлетэнь пачаў выдавацца ў сакавіку групай падтрымкі кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь М.Чыгіра. Цяпер выдаўца чакае суд.

У райаддзеле быў складзены пратакол аб нібыта незаконным друкаванні і распаўсюджванні «Избирателя», хаця ў міліцыі навaт не здолелі назваць артыкул закона, які быў парушаны В.Леванеўскім. Перад тым у яго проста паспрабавалі адабраць камп'ютэрную тэхніку. У офісе В. Леванеўскага раптам паявіліся сем міліцыянтаў, усе афіцэры. Яны мелі ў руках некалькі экземпляраў бюлетэня і сказалі, што прыйшлі, каб забраць камп'ютэр. Аднак гэта ім не ўдалося зрабіць, бо ахоўнікі парадку не мелі неабходных пракурорскіх санкцыяў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Абортаў больш, чым родаў

**У 1998 годзе ў Беларусі зарэгістравана 93.772 родаў, а колькасць абортаў склала 141.051.**

Такім чынам, на 100 родаў прыпадае 150 абортаў. Такія дадзеныя прывяла галоўны акушэр-гінеколаг Мінскай вобласці Антаніна Шмак падчас выступлення 17 сакавіка на першым міжнародным кангрэсе па дэмаграфічных праблемах Беларусі.

Пры гэтым, як адзначалася ў дакладзе А.Шмак, з агульнай колькасці абортаў 2.935 зрабілі дзяўчаты 15—17-гадовага ўзросту і 59 — дзяўчынкі ва ўзросце да 14 гадоў. Дадзеныя ананімных апытанняў, сказала галоўны акушэр-гінеколаг, паказваюць, што 58 працэнтаў падлеткаў да 17 гадоў ужо з'яўляюцца «сексуальна актыўнымі». А.Шмак лічыць, што ў выніку «амалажэння» палавога жыцця з'яўляюцца не толькі аборты сярод падлеткаў, але і імклівы рост захворванняў на сіфіліс.

*БелаПАН*

Павел СЕВЯРЫНЕЦ,
*старшыня «Маладога фронту»*

# Формула рэформаў

Моладзь, якая ўсе постсавецкія гады сачыла за падзеямі, пільна глядзела TV і падлічвала палітычныя трупы, ужо выдатна засвоіла, як трэба брацца за рэфармацыю, каб яна пайшла на «ўра».

## Рэклама

Такое ўражанне, што першыя тыдні пасля падзення рэжыму мы бяздарна правалім. На пераможных, з салютамі, мітынгах адкрычымся-адарвемся за пяць гадоў уласнага страху і прыніжэнняў, вернемся ў разрабаваныя кабінеты — ахрыплыя, спустошаныя, з дазволеным бел-чырвона-белым сцягам наперавес, і зоймемся млявым падлікам урону. А тым часам краіна, ныючы пасля пахмелля, будзе паціху дранцвець у прадчуванні, што «пры гэтых» стане яшчэ галадней.

Нас не ўратуе ні стаўка рэфінансавання, ні перагляд мытных тарыфаў, ні пісьмовыя распараджэнні, спушчаныя вертыкальна. Усё гэта — «гаечныя ключы». А сапраўдныя ключы рэформаў, «ключы запальвання», ключы ад кватэры, дзе грошы ляжаць — яны знаходзяцца ў кожнага чалавека якраз там, дзе прынята круціць пальцам, пры скроні. Масавая псіхалогія — ключавое пытанне, калі размова ідзе аб глабальных зменах.

Першае, што трэба арганізаваць новаму ўраду, — гэта наладзіць грандыёзную, беспрэцэдэнтную рэкламу рэформаў. Запаланіць шырокі тэлеэфір, пераключыць на агітацыйную хвалю ўсе радыёстанцыі, узняць прэсу, шоу-бізнес, пляцы, універсітэты і нават спартовыя залы на эфектную прапаганду. Трэба на ўзроўні масавай свядомасці абудзіць у народа нясцерпнае чаканне рэформаў. Прагу рэформаў. Прымусіць краіну ўдыхнуць свежага паветра, жыць пераменамі. Рэфарматарская сіла ўсяго грамадства, патэнцыял нацыі на парадак вышэй за магчымасці любога казённага бюджэту ці мільярдных замежных крэдытаў. Насамрэч, вы ж не каналізацыю рамантуеце — вы рэфармуеце аграмадную жывую супольнасць, 10 мільёнаў мазгоў. А энтузіязм насельніцтва, ахопленага павальнай ліхаманкай зменаў, — анестэзія, якая абязбольвае і шокавую тэрапію, і радыкальныя непапулярныя меры.

Гэта павінна быць зразумела кожнаму, хто бярэцца за справу: Рэклама — Рухавік Рэформаў.

Перш чым распрадаваць направа і налева дзяржаўную ўласнасць, трэба ў вачах спажыўца ператварыць яе ў залатое дно, у рамантыку, якая займае дух, так, каб склады і прамысловыя аб'екты сталі скарбамі і аб'ектамі вострага жадання. Адпаведна, перш чым распачынаць маштабную беларусізацыю, трэба стварыць усенародны попыт на беларушчыну. Увогуле, перш чым зрабіць хоць крок наперад, трэба ашчаслівіць грамадзянаў гэтым фактам настолькі, каб яны ўспрымалі яго як асабісты поспех. Формула простая, але будзе эфект!

## Змест

Безумоўна, зніжэнне падаткаў і абмежаванне іх спектру да ліку самых збіральных. Натуральна, перамовы аб прадастаўленні заходніх крэдытаў на структурную перабудову індустрыі з матэрыяла- і энергаёмістай вытворчасці ў праца- і навукаёмістую. Канешне ж, манетарысцкая барацьба з інфляцыяй, увядзенне талера і народная прыватызацыя ад дробнага да буйнога. Несумненны пераход сельскай гаспадаркі на таварную спецыялізацыю фермерскага тыпу. Тут жа, усім зразумела, разгортванне транзітнай індустрыі (аўтазапраўкі, матэлі, хуткае харчаванне, майстэрні, гандлёвыя і выстаўныя цэнтры), у першую чаргу на асноўных аўтатрасах і чыгунках — замест арганізацыі «левых» таварапатокаў і мытных махінацыяў на дзяржаўным узроўні. Тым часам праблема аплаты нафта-газавага транзіту пакуль можа пачакаць: Расія сёння ўсё адно разлічыцца не ў стане.



Само сабой, рэфармаванне войска ў прафесійную нацыянальную гвардыю, а 120-тысячнай міліцыі — у больш кампактную, мабільную і прэстыжную паліцыю (увага: змена назвы мае значэнне). Далей — дасягненне поўнага нейтралітэту краіны: перамовы аб дэмантажы і вывадзе цацак, з якімі любіць гуляцца расійскі генштаб. Ніякіх брацкіх саюзаў, а таксама ніякага *NATO*: ідэя супрацьстаяння Захад — Расія на Беларусі павінна быць вычарпаная.

Відавочна, што Беларусь на сённяшні момант не ў стане будаваць сваю эканоміку, зыходзячы з аграрных прыярытэтаў. На Захадзе, атрымаўшы слоік з салатай «Зроблена ў Беларусі», чытаюць «Made in Charnobyl». Расія, куды бартэрам закачваецца паток беларускіх прадуктаў, не ў стане аплачваць харч жывымі грашыма. Больш праўдападобная будучыня Беларусі як краіны высакаякаснай тэхналагічнай зборкі і гасціннага сервісу, навуковага, інфармацыйнага і культурніцкага прадукту.

Урэшце, усе згодныя: не адміністрацыйная беларусізацыя ўзору 1991—1992 гг., а найшырэйшае Адраджэнне маралі, асноўных каштоўнасцяў, духоўнасці на грунце Нацыянальнай Ідэі.

У слушнасці такіх мераў мала хто сумняваецца. Але лёс рэформаў залежыць ад таго, якім менавіта чынам будуць увасабляцца ў жыццё ўсе гэтыя бясспрэчна правільныя ісціны, ад таго, які вобраз дзеяння будзе ўзяты на ўзбраенне.

## Акцэнты

Ёсць некалькі момантаў, выключна важных менавіта для Беларусі, і менавіта ў сённяшні час. Гэтыя акцэнты варта вынесці за агульныя дужкі і разгледзець больш пільна — без іх усе рэформы набудуць адно — прыкры акцэнт усенароднай трасянкі, калі хочацца як лепш, а атрымоўваецца ні тое, ні сёе.

Найперш, моладзь. Сучасныя беларускія рэформы — гэта рэформы маладых і паводле духу, і ў сваёй сутнасці. Маладым заўтра жыць, ды, зрэшты, сёння яны складаюць і асноўную базу, і найбольш актыўную, радыкальную сілу апазіцыі. Шырокую падтрымку, роўна як і дзёрзкія ідэі, як і свежыя кадры, трэба падымаць з пучынаў кіпучай моладзі.

У апошнія гады магутны маладзёжны напор быў прыдаўлены прэсам страху, не меў дастойнага прымянення ў школах, вучэльнях і універсітэтах — і яго прарвала ў крыміналізацыю, у наркатычны транс, разбэшчанасць, прагу эміграцыі і экстрэмісцкую нянавісць. Нашая задача — як мага хутчэй трансфармаваць усю маладзёжную сферу, каб новыя пакаленні з такой жа рашучай сілай рынуліся раскручваць махавікі рэформаў: Беларускі Эканамічны Цуд, Беларускі Будаўнічы Бум, Беларускі Культурны Выбух, Беларускі Духоўны Уздым.

Усе гэтыя галавакружныя рэчы мусіць мадэляваць другі настойлівы акцэнт — адукацыя. Дакладней, глыбінная, ачышчальная рэформа той сістэмы адукацыі, якая з савецкіх часоў была падначаленая вытворчасці валавага ўнутранага прадукту і якая дасталася нас усіх яшчэ з ясляў. Скінуць з плеч псіхічна небяспечную нагрузку ў 2/3 незапатрабаваных ведаў, атрымаць наколькі простыя, настолькі і ясныя ўяўленні, пазбавіцца ад запланаваных кашмараў у выглядзе экзаменаў на карысць канкурэнтных выпрабаванняў, пазбавіцца самога душку казармы ў класах і аўдыторыях — гэта шчаслівая мара і ўзорных выдатнікаў, і насельнікаў задняй парты. Пакуль дзяржаўнай сістэме прасцей працаваць у рэжыме інкубатара, бессэнсоўна чакаць ад грамадства цуду.

Трэці акцэнт — найважнейшы. Рэформы павінныя быць празрыстымі. Ад ступені сумленнасці і адкрытасці пераўтварэнняў і саміх рэфарматараў будзе залежаць, якая сістэма каардынатаў ці каштоўнасцяў будзе пакладзеная ў аснову. Беларуская лабараторыя мае на ўвазе стэрыльную чысціню пачынанняў. Усялякага роду піначэтаўскія сіндромы і надпісы на танках «Рэформы любой цаной!» — вірусы заразлівыя, небяспечныя і разбуральныя.

Урэшце, формула беларускіх рэформаў сярод усяе пералічанае цыфіры тоіць у сабе адзіны, сапраўды загадкавы і істотны Ікс. Хяаналагічны Час Ікс — час, на які прызначаны старт пераменаў. Час, які ўсім не церпіцца прадказаць. Раскрыю вам сакрэт: ураўненні з адным невядомым яшчэ з пачатковай школы вырашаюцца элементарна, у два радочкі. Вось яны: «Час надыдзе, калі Мы Самі будзем гатовыя ажыццявіць рэформы». І ўсё.

---

*ФИНАНСЫ*

# Евро и доллар

Оливер БЛАНКАРД,
*профессор экономики Массачусетского технологического института*

Отставка Оскара Лафонтена дала евро лишь короткую передышку. Сейчас падение будет продолжаться. Если и дальше все пойдет как раньше, скоро один евро будет стоить меньше одного доллара. Этот переходный момент преисполнен символичности: уже через несколько коротких месяцев после своего рождения «сильный», как пророчествовали его создатели, евро станет слабым.

Всевозможные старые раны неизбежно вновь откроются, если евро упадет так низко и так быстро. Многие европейские комплексы неполноценности в отношении Америки, которые должны были навсегда исчезнуть после введения евро, могут воскреснуть с новой силой. В Париже растет предположение, что Вашингтон должен предпринять шаги по стабилизации обменного курса между основными валютами, в частности, курса евро к доллару.

Пришло время повторить некоторые старые истины, которые многие европейцы, похоже, намеренно забывают. Как сильный франк, так называемый *franc fort* 1990-ых, не подразумевал экономически сильную Францию, так и сильный евро не должен быть уравнен со стремительно развивающейся Европой. Обменный курс — это цена, а не счет последних игр Кубка мира. Как и любая цена, он должен иногда увеличиваться, а иногда уменьшаться в соответствии с рыночным спросом.

Это, конечно, правда, что обменный курс отличается от многих других цен в том, что он напрямую зависит от политики центрального банка. Отсюда вытекает, что Федеральный резервный банк (ФРБ) и Европейский центральный банк (ЕЦБ) обладают необходимыми средствами для стабилизации обменного курса. Но вступать на этот путь было бы ужасной ошибкой.

Стабилизация обменного курса подразумевает агрессивное нападение на процентные ставки. Вмешательство в рынок валют без внесения изменений в процентные ставки — мера, которую экономисты называют «стерильным вмешательством», — позволило бы влиять на обменный курс только в течение нескольких минут, максимум — нескольких дней.

Председатель Федерального резервного совета (ФРС) Америки Алан Гринспан определяет процентную ставку доллара в зависимости от того, что происходит в Соединенных Штатах. ЕЦБ определяет ставку евро в зависимости от того, что происходит в Европе. Обе стратегии верны. Пока два этих центральных банка действуют так, а не иначе, и пока два этих региона подчиняются различным стратегиям, процентные ставки Америки и Европы будут продолжать развиваться по разным схемам, и их обменный курс будет по-прежнему колебаться. Вот что происходит в данный момент. Риск «докатиться» до спада выше в Европе, чем в США. В результате, в предстоящем году процентные ставки скорее упадут в Европе, чем в Соединенных Штатах. Обменный курс евро к доллару отражает эту ожидаемую перемену. Более низкая цена евро уменьшает риск спада в Европе. Опять же, это — хорошие новости для европейцев.

Стабилизировать курс евро на этой стадии было бы равносильно объявлению Европейского центрального банка о том, что он скорее предпочитает задержать евро на более высоком уровне, чем избежать спада. А по ту сторону Атлантики решение удерживать курс евро к доллару на сегодняшней отметке было бы равноценно объявлению ФРС о том, что, несмотря на низкий, в 4,4%, уровень безработицы, он уменьшит процентную ставку и, быть может, воскресит из небытия инфляцию.

Обе стратегии были бы глупыми.

К счастью, ни одна из них скорее всего не развернется. Поэтому ФРС и ЕЦБ должны по-прежнему заниматься своими магазинами и позволить валютному рынку устанавливать обменный курс.

Вот когда центральные банки, и ЕЦБ в особенности, могут играть важную роль как носители и распространители информации. Они могут указывать — строгим языком, которым они так хорошо владеют, — что настало время торговцам валютой вернуться к реальности. Насколько они могут в этом преуспеть? Попытки Алана Гринспана уговорить и спустить рынок акций на землю с того, что он назвал «нерациональным излишеством», не очень-то убедительны в этом плане. Возможно, он был слишком сдержанным, но такие усилия являются ответственностью двух на сегодняшний день самых больших центральных банков мира.

КАНФЕСІІ

# Пакарай сына свайго

У адной з вёсак Бярозаўскага раёна на Брэстчыне мяне перапыніла купка вясковых дзецюкоў з пытаннем:

— Вы з Мінска?

— Так, са сталіцы, — адказваю.

— А дакумент пры сабе маеце?

І дзецюкі, упэўніўшыся, што я сапраўды «прэса» і менавіта той, за каго сябе выдаю, адвялі ў зацішны кут ад цікаўных вачэй падалей і папрасілі знайсці ўправу на іх бацюшку, настаяцеля Свята-Пакроўскай царквы. Злодзей ён, хапуншчык, нядобрасумленны чалавек, служка Божы. І паводзіць сябе не як Богавы служка, а... І ўручаюць мне ліст, дакладную копію арыгінальнага дакумента, накіраванага пракурору Бярозаўскага раёна ад царкоўнага савета. На двух аркушах пералік подзвігаў бацюшкі. Царкоўная маёмасць прыліпла да рук бацюшкі. Тут і два срэбныя пазалочаныя кубкі, дзве срэбныя з пазалотай лыжачкі, велікодны срэбны з пазалотай і ўпрыгожаны каштоўнымі каменьчыкамі падсвечнік, на залатым ланцужку царкоўны звонік, дзве свяшчэнныя рызы, абразы малога памеру — каля 40 (сарака) штук, два абразы срэбныя. З двух іншых абразоў выдраныя, выкалупаныя каштоўныя камяні. Абразы святога Панцеляймона і Міколы-ўгодніка. Скрадзеная і Біблія ў дарагім абкладзе, кубкі, лыжачкі, гладышы велікодныя. А дарагія падсвечнікі падмяніў таннымі, акісленымі, непрыгоднымі да службы. А грошы, сабраныя прыхаджанамі для рамонту царквы, бацюшка звёз з сабой, прыхапіўшы і галоўную рэліквію храма, срэбны крыж. Праўда, крыж з дапамогай высокага начальства са сталіцы давялося вярнуць.

Пачакаўшы, пакуль я дачытаю гэты дакумент, вясковыя дзецюкі пасля вагання рашыліся:

— Бацюшка ў дадатак яшчэ таго, бабнік. Валачыўся за кожнай спадніцай. Колькі кабет перавазіў на сваім трохкалёсным драндулеце-матацыклеце ў лес... Пасля гэтага дасць ёй Евангелле і загадвае, каб перажагналася, што нікому, ніводнай душы не скажа, а то ў яе хату хвароба ўскочыць.

— Браткі мае, — кажу дзецюкам. — Самі ведаеце, што ў такіх выпадках робіцца. Пагаварылі б з бацюшкам-гулякам па-мужчынску.

— Ого, вы скажаце, — паўшчувалі дзецюкі. — Божы чалавек, нельга так...

— Дык што рабіць? — пытаюся я. — Страляцца і не жыць?

— Не, мы не сядзім, склаўшы рукі, — баб у сталіцу выправілі, каб высокаму царкоўнаму начальству паскардзіліся. І бацюшку перакінулі на іншае месца, у Кобрынскі раён. Праўда, усё тое дабро, што было пералічана ў спісе-скарзе, паехала разам з бацюшкам.

Журналісцкія сцежкі прывялі мяне да згаданага героя — бацюшкі. Цікавасць брала, хто ж ён? Як сябе паводзіць? Пра што хвалюецца... І праўда, хутка нагаварыліся. За дзесяць хвілінаў я пачуў ад яго столькі брыдоты, мацюкоў. Хіба гэта Божы служка? Пасялковы рамізнік, укінуўшы за каўнер пяць разоў па сто. Не відаць Бярозаўскім вернікам свайго дабра.



А вось прыгадка з вандровак па Гомельшчыне. У адной з вёсак спыніліся каля храма. Нам трэба зрабіць фота для энцыклапедычнага выдання. Але рука не падымаецца здымаць гэтую нягеглую, нядзэшлую хаціну. Няўжо гэта і ёсць храм? Не, памылкі няма. Крыж на відным месцы, і побач на дрэве на ланцугах вісіць іржавы дыск ад МАЗа. І праўда ж, царкоўны звон. Цяпер можна кіраваць да бацюшкі, няхай адчыняе храм, нам жа і іканастас на фота адлюстраваць трэба. Нарэшце, і бацюшкавы пенаты. Вось табе і дамок. Панскі палац! Прыгожы, ладны, мураваны. Абнесены высокай дубовай агароджай. Штыкет да штыкета, і так шчыльна, што і сабака лапу не прасуне. Доўга грукаем у веснікі. Нарэшце, і сам бацюшка. Доўга, прыдзірліва правярае нашыя дакументы, на свет вывучае пячатку, подпіс высокага царкоўнага начальства. Тут не вытрымлівае вадзіцель міністэрскага рафіка, хлопец востры на язык:

— Бацюшка, як вам не сорамна! Які ў вас храм? Даваенная вясковая кузня. Пачарнелыя сцены, смецце ў двары. Не знайшлі грошай на пару вёдзер фарбы?

Ужо пры развітанні бацюшка вінавата апусціў вочы, папрасіўшы:

— Толькі не гаварыце анікому ў сталіцы. Даю слова, куплю фарбы і падмалюю храм...

Прыход у Нарачанскім краі. Каля драўлянай утульнай цэркаўкі нас сустрэла купка прыхаджанаў і рашуча папярэдзіла:

— Бацюшку аднаго ў храм не пусцім. Пойдзе з вамі нехта з царкоўнага савета, казначэй, староста, прыхаджане.

За што ж такая няміласць бацюшку? Ага, вось у чым прычына. Бацюшка ўсё ўжо выцягнуў з храма, пакінуўшы голыя сцены. А што ўжо скваліны! Грошы хавае, матушку ледзь не голадам морыць. Матушцы за дзесяць гадоў адны боты выдзеліў, на лета іх добра хавае. І праўда, мы зайшлі ў дамок бацюшкі і ўбачылі матушку. Басанож, на цэментнай падлозе абірала ў вядры бульбу.

— Захварэць можна, матушка! — заўважаем ёй, шкадуючы.

— Бацюшка кажа, што ў Бога за мяне прасіць, а таму хадзі, матушка, басанож да восеньскіх замаразкаў...

На маім фотаздымку адлюстраваны арыгінал — бацюшка згаданага прыходу.

Мне шмат разоў даводзілася бываць у хатніх апартаментах царкоўных служыцеляў. Я вельмі рэдка бачыў паліцы з кнігамі. Пра беларускую кнігу і казаць не варта. Беларускую літаратуру бацюшкі не шануюць.

На Брэстчыне каля аднаго з праваслаўных храмаў сярод будаўніча-рамонтнага смецця мне патрапілася шлюбная кніга 1833 года. Шыкоўна выдадзеная, на добрай паперы, вялікіх памераў, у скураным абкладзе.

— Чаму такая кніга пад нагамі? Схавайце, яна ж гістарычная, каштоўная. Такая ж святыня, як і абраз...

— На этот счет указа из епархиального управления не было. Значит, никому не нужна, — бадзёра, як папісанаму, адказаў бацюшка.

Сярод рознага «царкоўнага» смецця ў вёсачцы Востраў на Піншчыне непадалёк ад царквы маю ўвагу прыцягнуў пачарнелы, патрапаны скураны абклад. Адкрываю, гартаю адну старонку, другую і не веру сваім вачам: 1773 год (!) Царкоўна-прыходская кніга настаяцеля Востраўскай Свята Раства Багародзіцкай царквы, пабудаванай аж дзвесце пяцьдзесят гадоў таму. Але ж чаму такі ўнікальны рукапісны дыярыуш апынуўся на сметніку? Яму ж цаны няма. Гістарычная вясковая хроніка, апісанне розных падзеяў, што мелі месца тут у канцы васемнаццатага стагоддзя, шлюбныя акты, хрышчэнні, дабрачыннасць мешчанчукоў і шмат што яшчэ.

Так ужо склалася, што да ўсепераможнага шэсця Кастрычніка царква на вёсцы выконвала ролю своеасаблівага вясковага музея, калі хочаце. Паўтараю, менавіта храм, дагледжаны, пры добрым, адукаваным гаспадары-настаяцелі.

Цяпер жа гэтую ролю ўзялі на сябе сумна-занядбаныя куточкі так званых краязнаўча-асветніцкіх музеяў пры вясковых школах. Хутчэй дзеля галачкі начальства райана вучні збіраюць усё, што патрапіць пад руку. На жаль, настаўнікі не навучылі вучняў шанаваць старыя, хай сабе царкоўныя кнігі. Так і жывуць. Вучні сабе, а бацюшкі, як той, гомельскі і брэсцкі, — сабе.

**Вячаслаў ДУБІНКА,**
*пісьменнік*

# Даты і лёсы

## 23 сакавіка

**1716.** Утварылася Віленская канфедэрацыя шляхты, якая выступіла супраць караля Аўгуста II (яго падтрымлівалі Расія і Прусія) і дамаглася абмежавання ўлады караля і гетманаў Рэчы Паспалітай.

**1919.** Мусаліні стварыў у Мілане першую групу фашысцкіх баевікоў *(fasci di combattimento)*.

**1925.** У штаце Тэнесі было забаронена выкладаць у школах тэорыю эвалюцыі Дарвіна.

**1944.** Англійскі лётчык Нікалас Олкмейд выкінуўся з падбітага над Германіяй бамбардзіроўшчыка, праляцеў без парашута 5,5 км да зямлі і застаўся жывы, нават не атрымаў ніводнага пераломy. Хуткасць падзення (каля 200 км/г.) пагасіла елка, з якой шчаслівчык скаціўся ў снегавы сумёт.

## 24 сакавіка

**1794.** У Кракаве пачалося вызвольнае паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам. У першы ж дзень начальнік узброеных сілаў звярнуўся з асобнымі адозвамі да арміі, грамадзянаў, духавенства і жанчын, заклікаючы іх да барацьбы за свабоду.

**1814.** У Сен-Дэні Аляксандр I прыняў парад 5-тысячнага польска-беларускага корпуса, які захоўваў вернасць Напалеону да самага яго адрачэння ад прастолу. Рэшткі 20-га коннага палка, конна-егерскага эскадрона і конна-артылерыйскай роты войска ВКЛ увайшлі ў склад арміі Царства Польскага, якім камандаваў цэсарэвіч Канстанцін.

**1976.** У выніку бяскроўнага перавароту ў Аргенціне была адхіленая ад улады Ізабель Перон, якая атрымала пасаду прэзідэнта краіны ў спадчыну ад мужа Хуана напярэдадні яго смерці ў 1974 г.

**1989.** Група амерыканскіх і брытанскіх фізікаў абвесціла, што ім удалося здзейсніць рэакцыю «халоднага» (без выбуху) тэрмаядзернага сінтэзу, якая павінна стаць невычэрпнай крыніцай энергіі для патрэбаў чалавецтва, аднак паспяховага паўтарыць эксперымент ніхто больш не здолеў.

## 25 сакавіка

***Каталікі святкуюць Звеставанне (Дабравешчанне).***

**1864.** У Вільні былі арыштаваны кіраўнік Ваеннага аддзела ў падпольным рэвалюцыйным урадзе Беларусі і Літвы Юзаф Каліноўскі. Цёзку Кастуся прысудзілі да пакарання смерцю, якое ўлады потым замянілі на 10 гадоў катаргі.

**1917.** У Мінску адкрыўся з'езд беларускіх нацыянальных арганізацыяў. З'езд выказаўся за палітычную аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай рэспублікі, пераход пачатковай і сярэдняй адукацыі на беларускую мову і супраць прэтэнзіяў Літвы на ўсю Віленскую губерню. Старшынёй створанага Беларускага нацыянальнага камітэта быў абраны Раман Скірмунт.

**1918.** Рада БНР у 3-й Устаўной грамаце абвясціла пра юрыдычнае аддзяленне Беларусі ад Расіі і ўтварэнне вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Неўзабаве Раду ўзначаліў Раман Скірмунт, які, маючы добрыя стасункі з нямецкімі ўладамі, здолеў дасягнуць становішча, амаль аналагічнага пазіцыям гетмана Скарападскага на Украіне і Рэгенцкай Рады ў Польшчы.

**1929.** На выбарах у Італіі фашысты атрымалі, як запэўніў Мусаліні, 90 працэнтаў галасоў.

**1949.** У аддаленыя раёны СССР былі высланыя 14 тысяч «спецперасяленцаў» з Латвіі, у тым ліку старыя і дзеці.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by ; naviny@hotmail.com http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3)
Заказ 524 Нумар падпісаны ў друк 22/03/99 (15:00) Наклад — 17.420 Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.